Д.С. Вадзюшына

# Французская мова

Вучэбны дапаможнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У 2 частках
Частка 1

*Дапушчана Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
"ВЫШЭЙШАЯ ШКОЛА"
2013

УДК 811.133.1(075.2=161.3)
ББК 81.2Фр-922
В12

*Рэцэнзенты*: кафедра раманскага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (кандыдат філалагічных навук, старшы выкладчык кафедры *Г.В. Квачак*); настаўнік французскай мовы вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя школа № 134 г. Мінска» *Р.В. Гаўрыліна*

**Вадзюшына, Д. С.**

В12 Французская мова : вучэб. дапам. для 3-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання. У 2 ч. Ч. 1 / Д. С. Вадзюшына. – Мінск : Выш. шк., 2013. – 142 с. : іл.

ISBN 978-985-06-2335-5.

**УДК 811.133.1(075.2=161.3)**
**ББК 81.2Фр-922**

**ISBN 978-985-06-2335-5 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-06-2336-2**

# Дарагі сябар!

Я запрашаю цябе ў падарожжа – у свет цудоўнай французскай мовы. Французская мова – адна з самых прыгожых моў свету. Яна такая ж  мілагучная, як і наша родная.

Дзеці ў розных кутках свету і ты, я спадзяюся, ведаюць байкі пра Варону і Лісіцу, Воўка і Ягня, чыталі цудоўныя казкі пра маленькага прынца і добрую працавітую Папялушку, непаслухмяную Чырвоную Шапачку і хітрага Воўка, разумнага Ката ў ботах і добрага Хлопчыка-з-Пальчыка, спячую прыгажуню і страшную Сінюю Бараду. Усе яны былі напісаны французскімі пісьменнікамі: лётчыкам Антуанам дэ Сент-Экзюперы, байкапісцам Жанам Лафантэнам і казачнікам Шарлем Перо.

Валодаць замежнай мовай не толькі цікава, але і неабходна ў наш час.

Вывучай французскую мову, і ты даведаешся шмат новага і цікавага пра Францыю і яе сталіцу. Французская мова дапаможа табе знайсці сяброў у розных краінах свету.

Поспехаў табе і плённай працы. Bonne chance!

*Аўтар*

# C’est la France






Le Musée du Louvre



Le parc Disneyland

# UNITÉ I

# L'ALPHABET FRANÇAIS

## LEÇON 1 (un). Bonjour, madame!

**1. Паслухай, разгледзь малюнак і адкажы: Што гаворыць настаўніца? Што гавораць дзеці? Як іх завуць?**




**2. Літары і гукі. Паслухай і паўтары.**

**Aa  Ee  Ii  Ll  Mm  Nn**



Lili



Mila



Nina



Aline



Inna

**3. Паслухай і прачытай.**

Li-li Ni-na Mi-mi Li-na A-line

| | | |
|---|---|---|
| Lala | Inna | Mimi |
| Nana | Alla | Lili |
| Lina | Nina | Aline |
| Mila | Minna | Annie |

**Attention!** У французскай мове націск у слове падае заўсёды на апошні склад: Mi-là, Na-nà.

Літара **e** на канцы слова не чытаецца: Aline.

Літара **l** вымаўляецца заўсёды мякка, як **«ль»**: Lili.

Падвоеныя зычныя вымаўляюцца як адзін гук: A**nn**ie, Mi**nn**a.

**4. Напішы літары і словы.**

*Aa Ee Ii Ll Mm Nn*
*Aline. Mimi. Nina.*

**5. Літары пераблыталіся. Назаві імёны гэтых дзяўчынак.**

1. AEINN 2. LAIEN 3. AILM





**6. Прачытай імёны. Якая літара сустракаецца ва ўсіх словах?**

Aline Lina Nina Annie Nana Minna

**7.** **Імёны перабблыталіся. Прачытай спачатку словы з літарай L, потым з літарай N і, нарэшце, з літарай M.**

Mimi, Lili, Nina, Nonna, Aline, Lina.

Mila, Annie, Lala, Nana, Alla, Anna.

**8.** **Разыграйце сцэнку. Павітайцеся з настаўніцай (практ. 1, с. 5).**

**9.** **Чытаем разам.**

**Un I, un A, un L**

Un I, un A, un L
Uni, una, unelle
Un I, un A, un L
Bonjour, mesdemoiselles.
Uni, una, unelle
Bonsoir, mesdemoiselles.

Maurice Carême

## LEÇON 2 (deux). C'est moi, Toma.

**1.** **Паслухай, разгледзь малюнак і адкажы: Як завуць дзяцей? Што яны гавораць?**




**2.** 🎧 **Літары і гукі. Паслухай і паўтары.**

**Dd** **Tt** **Oo**



Toto et Otto



Dina et Emma

**3.** **Паслухай і прачытай.**

Di-ma To-to A-na-tole Otto Na-dine

| | | |
|---|---|---|
| Dina | Otto | Nadine |
| Dima | Toto | Odile |
| Emma | Tata | Annie |
| Toma | Inna | Aline |

Dima et Dina // Toto et Toma // Nadine et Emma

Anatole et Otto // Annie et Aline // Daniel et Odile

Dima lit. Il lit. Toma dit. Elle dit.

**Attention!** Літары **d**, **t** заўсёды цвёрдыя і напружаныя: Dima, Toto.

Літара **t** на канцы слова не чытаецца: Il lit.

Літара **e** чытаецца як «э»: elle, Emma.

**4.** **Напішы літары і словы.**

*Dd Tt Oo Dima. Toto. Nadine.*

**5.** **Паслухай і прачытай. Адкажы: Як завуць дзяцей? Што яны робяць?**

Dima lit. Il lit: Toto. Otto. Toma.

Toma dit. Elle dit: Nadine! Odile! Anatole!

**6.** **Разыграйце сцэнку. Павітайцеся і назавіце сябе (практ. 1, с. 9).**

**7.** **Назаві літары і гукі. Прачытай словы. Адкажы, колькі гукаў і колькі літар у кожным слове.**

| **ANATOLE** |
| --- |
| **NADINE** |
| **DANIEL** |
| **EMMA** |
| **TOTO** |

**8.** **Лічым і робім гімнастыку.**

**Comptine**

1, 2, 3,
j'ai froid.
4, 5, 6,
je fais des exercices.



# LEÇON 3 (trois). Allô! C'est Alice?

**1. Паслухай, разгледзь малюнак і адкажы: Як завуць дзяцей? Што яны гавораць?**




---

**Non, c'est Simone.** – Не, гэта Сымона.
**Voici Alice.** – Вось Аліса.

**2. Літары і гукі. Паслухай і паўтары.**

**Cc** **S S** **S s s s**





Alice



la tasse



la salade

## 3. Паслухай і прачытай.

De-nis A-lice Si-mone Da-niel O-dile

| la salle | le soldat | Denis |
|---|---|---|
| la tasse | le loto | Alice |
| la salade | le domino | Simone |

Denis et Emma // Alice et Simone // Daniel et Odile

Toma et Otto // Dima et Anatole // Nastia et Sonia

C’est Denis. Il dessine. C’est Simone. Elle dessine.

**Attention!** Літара **е** чытаецца як «**ё**»: Denis; літары **s**, **t** на канцы слова не чытаюцца: c’est.

## 4. Напішы літары і словы.

*Cc Ss Denis. Alice. La tasse.*

**5.** **Паслухай і прачытай словы з літарай <u>e</u>.**

Denis, Daniel, Emma, le domino, c'est, le loto, elle dessine

**6.** **Разгледзь малюнкі, паслухай і прачытай. Адкажы: Як завуць дзяцей? Што яны робяць?**



C'est Denis et Daniel.



C'est Simone.
Elle dessine la tasse.

**7.** **Прачытай сказы. Што робіць Сымона?**

C'est Denis et Daniel.
C'est Alice, Nadine, Toma et Odile.
C'est Simone. Elle dessine.
Simone dessine la tasse.

**8.** **Работа ў парах. Назавіце суседзяў па парце спачатку па адным, а затым па двое.**

<u>Modèle:</u> C'est Sonia.
C'est Nastia et Nicolas.

**9.** **Разыграйце сцэнку. Пазваніце адзін аднаму па тэлефоне (практ. 1, с. 12).**

## LEÇON 4 (quatre). Salut! Comment tu t'appelles?

**1.** **Паслухай, паглядзі і адкажы: Як зваць дзяцей? Што яны робяць?**



– Salut! Comment tu t'appelles?

– Je m'appelle Pierre.

– Moi, je m'appelle Julie.

---

**Salut!** – Прывітанне!
**Comment tu t'appelles?** – Як цябе зваць?

**2.** **Літары і гукі. Паслухай і паўтары.**

**Uu**
**Jj**

**P P p p p**





une jupe



une pomme



un panama



un

**3. Паслухай і прачытай.**

Lu-cie Ju-lie Sa-lut Ju-les pa-na -ma

| | | |
|---|---|---|
| Julie | une jupe | un papa |
| Lucie | une tasse | un panama |
| Jules | une pomme | un pull |

Jules et Julie // Sonia et Denis // Nastia et Lucie

je suis, tu es, il est, elle est, je m'appelle
je dis, tu dis, il dit, elle dit, tu t'appelles

**Attention!** Літара **u** чытаецца як «**ю**»: Lucie.
Літара **j** чытаецца як «**ж**»: Julie.

**4. Напішы літары і сказы.**

*Uu Jj Pp C'est Julie.*
*Elle dit: «Salut, Lucie.»*

**5. Прачытай словы з літарай j.**

je, joli, Julie, Jules, je suis, je lis, je m'appelle, je dis

**6. Прачытай словы. Якая літара сустракаецца ва ўсіх словах?**

Salut, Jules, Julie, suis, Lucie, une jupe, la lune, une pomme

**7. Прачытай сказы. Што гавораць дзеці?**

Je suis Julie. Je dis: «Salut! Je m'appelle Julie.»
Tu es Lucie. Tu dis: «Salut! Je m'appelle Lucie.»
Il est Denis. Il dit: «Salut! Je m'appelle Denis.»
Elle est Nastia. Elle dit: «Salut! Je m'appelle Nastia.»

**8. Разыграйце сцэнку. Пазнаёмцеся: назавіце сябе і спытайце, як завуць суразмоўніка (практ. 1, с. 15).**

**9. Чытаем разам і гуляем у «пры́віда».**

**Comptine**

1, 2, 3
C'est toi et c'est moi.
4, 5, 6.

Qui est-ce?
Lucie ou Julie?
Dima ou Toto?
Denis ou Emma?
Coucou! C’est moi!
Mais c’est Daniel!



## LEÇON 5 (cinq). Comment ça va?

**1. Паслухай, разгледзь малюнкі і адкажы: Пра што пытаецца настаўнік? Як завуць дзяцей? Які ў іх настрой?**

Le maître: Bonjour, les enfants! Comment ça va?



Julie: Moi, ça va très bien.



Vova: Ça va mal. J’ai mal à la tête.

---

**Comment ça va?** – Як справы?
**J’ai mal à la tête.** – У мяне баліць галава.

## 2. Літары і гукі. Паслухай і паўтары.

**Ç ç   V v**



une façade



une valse



une ville



une veste

## 3. Паслухай і прачытай.

Ça va? Vo-va   Va-lia   Va-nia   Vi-viane

une ville   une salade   une minute
une veste   une tomate   une tasse
une valse   une limonade   je suis malade

Vova et Vassil // Odile et Emma // Julie et Jules

Simone et Denis // Toma et Alice // Viviane et Daniel

Il a une pomme. Il a une tasse. Elle a une jupe.

**Attention!** Літара **ç** чытаецца як **«с»**: Ça va?

**4.** **Напішы літары і сказы.**

*Çç Vv C'est Vova.*
*Il dit: «Ça va?»*

**5.** **Разгледзь малюнкі, паслухай і прачытай. Адкажы: Як завуць дзяцей? Што ў каго ёсць?**



1. C'est Vova.
Il a une pomme.
Sa pomme est jolie.

2. C'est Toto.
Il a une tasse.
Sa tasse est petite.





3. C’est Viviane.
Elle a une jupe.
Sa jupe est jolie.

**6.** **Разыграйце сцэнку. Павітайце адзін аднаго і спытайце пра справы (практ. 1, с. 18).**

**7.** **Прачытай словы. Адкажы: Колькі гукаў і колькі літар у кожным слове? Якія літары не чытаюцца на канцы слова?**

**LIMONADE**
**VESTE**
**DENIS**
**JUPE**
**C’EST**

**8.** **Чытаем разам. Раскажы.**

– Salut, Viviane!
Comment ça va?
– Merci, Lucie,
Ça va très bien.

# LEÇON 6 (six). Au revoir, Pierre! Bonne journée!

1. **Паслухай, і адкажы: Як завуць дзяцей? Як па-французску сказаць «дзякуй»? Як развітацца і пажадаць «добрага дня»?**



– Salut, Rita! Comment ça va?

– Salut, Pierre. Ça va bien. Et toi?

– Merci. Ça va.

– Au revoir, Pierre! Bonne journée!

---

**Au revoir!** – Да пабачэння!
**Bonne journée!** – Добрага дня!

2. **Літары і гукі. Паслухай і паўтары.**

**R r Xx**



Rex





un taxi



un livre



une porte

**3.** **Паслухай і прачытай.**

Ro-ma Ri-ta Ma-ri-na Ta-ma-ra Pa-ris

| | | |
|---|---|---|
| Rita | Rex | merci |
| Roma | Max | Paris |
| Rimma | Pierre | un texte |

Rita et Roma // Max et Rex // Merci, Pierre!
Marina et Tamara // Viviane et Marianne
Il appelle. Il dit. Il lit. Il lit un livre.

**Attention!** Літара **x** чытаецца як **«кс»**: Max, і як **«с»**: six (6), dix (10).

**4.** **Напішы літары і сказы.**

*Rr Xx C'est Pierre.*
*Max appelle Rex.*

**5.** **Разгледзь малюнкі, паслухай і прачытай. Адкажы: Як завуць хлопчыкаў? сабаку? Што яны робяць?**

1. C'est Pierre.
Il lit un livre.





2. C'est Max.
Max appelle Rex: Rex! Rex!

**6. Прачытай тэкст. Хто заве Рэкса?**

C’est Max. C’est Rex.
Rex dit: R-R-R-r-r-r!!!
Max appelle Rex. Il dit: «Rex! Rex!»
Rex appelle Max: Vaou! Vaou!
C’est Pierre. Il lit un livre. Le livre est joli.

**7. Скажы хутка, правільна і «не зламі» язык.**

Am stram gram
Pi et pic et colégrame
Bour et bour et ratatam
Am stram gram.

**8. Разыграйце сцэнку. Павітайце адзін аднаго, спытайце пра справы і развітайцеся (практ. 1, с. 22).**

**9. Паслухай, паўтары і палічы.**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| un | deux | trois | quatre | cinq |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| six | sept | huit | neuf | dix |



## LEÇON 7 (sept). Qui est-ce? C'est papa?

**1.** **Паслухай, разгледзь малюнак і адкажы: Як завуць дзяцей? Што гаворыць мама?**

Dzin! Dzin! Dzin!

– Dominique! Ouvre la porte.

– Oui, maman!

– Qui est-ce? C'est papa?

– Non, c'est Corinne.

– Bonjour, Corinne.

– Bonjour, Dominique.



---

**Qui est-ce?** – Хто гэта?
**Ouvre la porte.** – Адчыні дзверы.

**2.** **Літары, спалучэнні літар і гукі. Паслухай і паўтары.**

**Kk   Qq qu   Qui?**



quatre



un masque



un kiosque



le perroquet Jako

**3.** **Паслухай і прачытай.**

Ja-ko  Co-rinne  Mo-nique  Minsk  Ri-qui-qui

| | | |
|---|---|---|
| Jako | Monique | un cirque |
| Minsk | Dominique | un masque |
| Qui? | Riquiqui | un disque |

Corinne et Jako // Max et Rex // Minsk et Paris

Roma et Pierre // Monique et Dominique // Oui – Non

**Attention!** Літары **k, q** і спалучэнне літар **qu** чытаюцца як **«к»**: Jako, un coq, qui.

4. **Напішы літары і сказы.**

*Kk Qq qu Qui est-ce? – C'est Monique.*

5. **Паслухай і прачытай словы са спалучэннем літар qu.**

**a.** qui, que, quel, quelle, quatre
**b.** un perroquet, un masque, un cirque, un disque, un kiosque

6. **Прачытайце ў парах. Спытайце і адкажыце.**

1. Qui est-ce? C'est papa? – Non, c'est Katia.
2. Qui est-ce? C'est Dominique? – Non, c'est Riquiqui.
3. Qui est-ce? C'est Monique? – Oui, c'est Monique.
4. Qui est-ce? C'est Corinne? – Oui, c'est Corinne.

7. **Разгледзь малюнкі, паслухай і прачытай. Адкажы: Як завуць дзяцей? Колькі іх? Што яны робяць? Што ў іх ёсць?**



1. Monique rit.

2. Dominique a un masque.





3. Toto a un perroquet.

4. Corinne dessine un cirque.



**8.** **Прачытайце ў парах.**

1. Qui rit? – Monique rit.
2. Qui dessine? – Corinne dessine.
3. Qui a un masque? – Dominique a un masque.
4. Qui a un perroquet? – Toto a un perroquet.

---

**Qui?** – Хто? У каго?

**9.** **Разыграйце сцэнку. Выкарыстайце імёны вучняў у класе.**

Modèle: – Qui est-ce? C'est Tania?
– Oui, c'est Tania. / Non, c'est Katia.

Toma, Aline, Lucie, Alex, Nina, Julie, Sonia, Pavel, ...

## LEÇON 8 (huit). Quelle date est-ce?

**1. Паслухай, разгледзь малюнак і адкажы: Як завуць дзяцей? Якая сёння дата?**

– Salut, Jean!
– Salut, Sabine!
– Jean! Quelle date est-ce aujourd'hui?
– C'est mardi, le sept septembre.




---

**Quelle date est-ce aujourd'hui?** – Якая сёння дата?
**C'est mardi, le sept septembre.** – Аўторак, сёмае верасня.

**2. Літары, спалучэнні літар і гукі. Паслухай і паўтары.**

**Bb à an – am – en – em**


une balle


une table


un banc


une lampe

**3.** **Паслухай і прачытай.**

Bar-ba-ra    Sa-bine    Sa-man-ta
ma-man    Bra-vo!

| | | |
|---|---|---|
| Albert | un banc | une sandale |
| Robert | un divan | une banque |
| Bravo! | un moment | une lampe |

Albert et Alberte // Robert et Roberte // Armand et Armande

Jako et Kiki // Sabine et Barbara // Roland et Bertrand

elle demande, le quatre septembre, le six septembre

le sept septembre, le dix septembre

**Attention!** Спалучэнні літар **am, an, em, en** чытаюцца як насавы гук **«a»**: une lampe, un banc, septembre. Літары **m, n** не чытаюцца.

Літара **d** на канцы слова не чытаецца: Roland.

У слове «un banc» літара **c** не чытаецца.

У слове «sept» літара **p** не чытаецца.

**4.** **Напішы літары, спалучэнні літар і сказы.**

*Bb an am en em Bravo!*
*C'est septembre.*

**5. Прачытай словы з літарай b.**

**a.** Bravo! une balle, une banane, un banc, un bal, un ballet

**b.** une table, une fabrique, un acrobate, octobre

**6. Паслухай і прачытай словы з насавым гукам «а». Якія словы ты ведаеш?**

une antenne
une mandarine
une antilope

septembre
novembre
décembre

le talent
le temps
le moment

**7. Дапоўні словы ў адпаведнасці з малюнкамі і прачытай сказы.**



1. C'est une b... .



2. C'est une l... .



3. C'est un b... .



4. C'est une t... .



5. C'est une b ... .

**8. Прачытайце ўтрох. Назавіце даты.**

Jean dit à Sabine: «Salut, Sabine!»
Sabine dit à Jean: «Salut, Jean!»
Sabine demande à Jean: «Quelle date est-ce? C'est le quatre septembre?»
«Non, c'est le 3 ( 5, 6, 7, 8, 9, 10) septembre», dit Jean.

**9. Разыграйце сцэнку. Павітайце адзін аднаго, спытайце, якая сёння дата, і адкажыце (практ. 1, с. 29).**

**10. Чытаем разам.**

une lance – deux lances – trois lances – silence

1 lance, 2 lances
3 lances, 4 lances
5 lances, 6 lances
SILENCE!

## LEÇON 9 (neuf). Bonsoir, Françoise!

**1. Паслухай і адкажы: Як завуць дзяцей? Што ў хлопчыка ў руцэ?**

**Françoise:** Qui est-ce? C'est toi, Antoine?
**Antoine:** Oui, c'est moi. Bonsoir, Françoise.

**Françoise:** Ravie de te voir, Antoine.

**Antoine:** Voilà une boîte. C’est pour toi.

**Françoise:** Quelle jolie boîte! Merci bien, Antoine.



---

**Bonsoir, Françoise.** – Добры вечар, Франсуаза.

**Ravie de te voir.** – Рада цябе бачыць.

**2.** **Літары, спалучэнне літар і гукі. Паслухай і паўтары.**

**Ff  î  ê  oi**



une boîte



une fenêtre



trois



une armoire

**3. Паслухай і прачытай.**

Bon-soir la France An-toine Fer-nand

moi voir Antoine
toi noir François
roi poire Me voilà.

Antoine et Antoinette // Fernand et Fernande

Bonsoir et au revoir // La France et Paris C'est moi.

il voit, il dit, elle donne, il est poli, elle est bonne, donne-moi

**Attention!** Літара **ê** чытаецца як **«э»**: une fenêtre.

Спалучэнне літар **oi** чытаецца як хутка вымаўленае **«уа»**: trois.

**4. Напішы літары, спалучэнне літар і сказы.**

*Ff î ê oi C'est la France. Voilà Paris.*

**5. Паслухай і прачытай словы са спалучэннем літар oi. Літары e, s, t не чытаюцца!**

**a.** oie, moi, roi, toi, loi, quoi, soie, pois, trois, il doit, elle croit

**b.** voir, noir, une poire, un devoir, voici et voilà

**6.** 🎧 **Паслухай і прачытай словы з літарай f. Якія словы табе знаёмы?**

une ferme, une flotte, une fenêtre, l'Afrique, un film, un buffet

**7.** 🎧 **Разгледзь малюнкі, паслухай і прачытай. Адкажы: Што ляжыць на стале? Што робіць мама?**



1. Voici trois poires sur la table.



2. Voilà maman et Antoine. Maman donne une poire à Antoine.

## 8. Прачытай. Што маці дае Антуану?

Antoine voit trois poires sur la table.

Il dit: «Maman, donne-moi une poire, s'il te plaît.»

Maman donne une poire à Antoine.

Antoine dit: «Merci, maman.»

Antoine est poli. Maman est bonne.

---

**Donne-moi** – Дай мне
**s'il te plaît** – Калі ласка

## 9. Дапоўні адказы на пытанні.

1. Qui voit trois poires sur la table? – ... voit trois poires sur la table.
2. Qui donne une poire à Antoine? – ... donne une poire à Antoine.
3. Que dit Antoine? – Antoine dit: ...

---

**Que?** – Што?

## 10. Разыграйце сцэнку. Папрасіце што-небудзь ветліва адзін у аднаго і падзякуйце (практ. 8). Выкарыстайце:

une banane, une pomme, une mandarine, une balle, une tasse, une poire, ...

## LEÇON 10 (dix). Toc! Toc! Toc! Qui est là?

**1.** **Паслухай і адкажы: Як завуць хлопчыка? Што ён гаворыць? Што гаворыць настаўніца?**

– Toc! Toc! Toc!
– Qui est-ce? Qui est là?
– C'est moi, Marc.
– Bonjour, Marc.
– Bonjour, madame.
– Entre! Va à ta place!



---

**Entre!** – Уваходзь!
**Va à ta place!** – Ідзі на месца!

**2.** **Літары і гукі. Паслухай і паўтары.**

**ca co cu cr cl**



1. Tic-tac, tic-tac...



2. Cot cot codet!



3. Cocoricooo!



4. Plic, ploc, plac ...

**3.** 🎧 **Паслухай і прачытай.**

Ca-role Ni-co-las Pas-cal Marc Jacques

| | | |
|---|---|---|
| Luc | un carnet | une classe |
| Marc | un cartable | un crabe |
| Nicole | un cube | un coq |

Nicole et Pascal // Luc et Marc // Miki et Kiki
Dominique et Nicolas // Monique et François
je vois, sur le mur, une carte de France
Comment est la classe? La classe est vaste.

**Attention!** Літара **c** перад **a**, **o**, **u**, перад зычнымі і на канцы слова чытаецца як **«к»**: une carte, un cube, une classe, un parc.

**4.** 🎧 **Паслухай і прачытай словы з рознымі літарамі, якія чытаюцца як «к». Якія словы ты ведаеш?**

**a.** un parc, un cirque, un kiosque, un masque, un coq, un sac
**b.** un caramel, un canal, une carte, une cabine
**c.** une colonne, un costume, du coca-cola, un bocal, la capitale
**d.** un crocodile, un corridor, un carnaval, un cabinet, une classe

**5.** **Дапоўні словы ў адпаведнасці з малюнкамі і прачытай сказы.**



1. C'est un co... .



2. C'est un cr... .



3. C'est une car... .



4. C'est un ca... .

**6. Прачытайце ўтрох. Апішыце клас.**

1. Voilà une classe.
Comment est la classe?
– La classe est vaste.
Et voici une porte, des fenêtres, une table et des bancs.
Sur le mur je vois une carte de France.

2. – Toc! Toc! Toc!
Qui est-ce? Qui frappe à la porte?
C'est Marc. Il dit:
– C'est moi, Marc. Bonjour, madame!
– Bonjour, Marc. Entre! Prends ta place!
Marc entre dans la classe et prend sa place.

---

**Comment est la classe?** – Які клас?
**Sur le mur je vois** – На сцяне я бачу
**Qui frappe à la porte?** – Хто стукае ў дзверы?

**7. Дапоўні адказы на пытанні.**

1. Comment est la classe? – La classe est ...
2. Qui est-ce? – C'est ...
3. Qui frappe à la porte? – Marc frappe ...
4. Que dit Marc? – Marc dit: ...

**8. Разыграйце сцэнку (практ. 1, с. 37).**

**9.** **Дапамажы камісару Мегрэ расшыфраваць назву краіны і горада, куды ён павінен ехаць, каб раскрыць злачынства.**



E
R A N F
C

P I
S R
A

## LEÇON 11 (onze). Quelle place est-ce?

**1.** **Паслухай, паглядзі і адкажы: Які гэта горад? Якую назву носіць плошча?**

**Rémi:** Quelle ville est-ce?
**André:** C’est Minsk.
**Rémi:** Quelle place est-ce?
**André:** C’est la place de la Victoire.
**Rémi:** Quelle belle place!



---

**Quelle ville est-ce?** – Які гэта горад?
**Quelle place est-ce?** – Якая гэта плошча?

## 2. Літары і гукі. Паслухай і паўтары.

**é ce ci cé**



un cinéma



un vélo



un képi



un poste de télé

## 3. Паслухай і прачытай.

Cé-cile Mar-cel Pat-ri-cia É-ric

Alice André un béret
Cécile Rémi un képi
Svéta Valérie un vélo

Cécile et Rémi // Alice et Valérie // André et François

Marc et Jacques // Nicolas et Patrick // Éric et Sonia

Quelle est cette ville? Quelle est cette place?

**Attention!** Літара **é** чытаецца як **«е»**: un képi.

Літара **c** перад **e, é, i** чытаецца як **«с»**: une place, Cécile, merci.

**4. Прачытай словы, у якіх розныя літары (c, s, ss) чытаюцца аднолькава. Якія словы ты ведаеш?**

**a.** une tasse, une salade, une façade, une scène, une pièce
**b.** ici, merci, c'est, cet, cette, sa, ce, ces, ses, la discipline
**c.** un narcisse, un cirque, un soldat, un cinéma, un bracelet

**5. Прачытай словы з літарай é. Якія словы ты ведаеш?**

| | | |
|---|---|---|
| la purée | un vélo | un cinéma |
| une allée | un béret | un café |
| une pédale | un métal | un léopard |
| une mélodie | un képi | un écran |

**6. Прачытайце ўтрох. Складзіце дыялогі.**

1. C'est une ville.
 – Quelle est cette ville?

– C’est Minsk, la capitale du Bélarus.

2. C’est une place.
   – Quelle est cette place?
   – C’est la place centrale de Minsk.

3. – Comment s’appelle cette place?
   – Cette place s’appelle la place de la Victoire.

4. – Quelle forme a cette place?
   – Elle a une forme ovale.
   La place de la Victoire est belle.

---

**cette** – гэта

**7. Дапоўні адказы на пытанні.**

1. Quelle est cette ville? – C’est ...
2. Quelle est cette place? – C’est la place ...
3. Comment s’appelle cette place? – Cette place ...
4. Quelle forme a cette place? – Elle a ...

**8. Разыграйце сцэнку (практ. 6, с. 43). Вазьміце інтэрв’ю, распытайце:**

**а.** пра плошчу Перамогі;
**б.** пра свой горад (вёску).

9. Спяваем разам. Назаві літары і гукі, якія ты вывучыў(ла).

**DO RÉ MI FA SOL LA SI DO**
do si la sol fa mi ré do

## LEÇON 12 (douze). Qu'est-ce que c'est?

1. Паслухай і адкажы: Як завуць дзяцей? Якая гэта жывёла?

**Rémi:** Qu'est-ce que c'est?
**Alice:** C'est un livre.
**Rémi:** Et ça?
**Alice:** Mais c'est une girafe!
**Jean:** Et là, qui est-ce?
**Éric:** C'est Sylvie, Julie et Gérard.







---

**Qu'est-ce que c'est?** – Што гэта?

## 2. Літары і гукі. Паслухай і паўтары.

**Gg Yy**



une orange



un stylo



une cage



un gymnaste

## 3. Паслухай і прачытай.

Gi-gi  Gé-rard  Syl-vie  Yves  So-lange

| | | |
|---|---|---|
| Julie | Sylvie | un stylo |
| Gigi | Yves | un gymnaste |
| Giles | Solange | une pyramide |

manger – il mange, nager – elle nage, donner – il donne

lire – elle lit, dire – elle dit, un livre avec des images

elle est à la mer, elle est sur la plage, tu es gentil

**Attention!** Літара **y** чытаецца як **«i»**: un stylo.

Літара **g** перад **e, i, y** чытаецца як **«ж»**: une plage, une girafe, un gymnaste.

Літара **r** на канцы слова пасля **e** не чытаецца: manger, nager, donner.

**4. Напішы літары і сказы.**

*Gg Yy C'est un stylo. C'est Gigi.*

**5. Паслухай і прачытай словы з рознымі літарамі, якія чытаюцца як «ж». Якія словы ты ведаеш?**

**a.** une image, une plage, une girafe, une orange, la gymnastique
un gilet, un étage, un général, un gymnaste, gentil, génial

**b.** Gigi, Julie, Giles, Gérard, Jules, Solange, Jeanne

**6. Разгледзь малюнкі, паслухай і прачытай. Адкажы: Як завуць дзяцей? Колькі іх? Што яны робяць? Дзе знаходзіцца Жыжы?**



1. Gérard mange une orange.



2. Sylvie est sur la plage.
Elle lit un livre avec des images.



3. Gigi est à la mer. Elle nage.

**7. Прачытай тэкст. Што робіць Сільвія?**

Gigi est à la mer. Elle nage.

Sylvie est sur la plage. Elle lit un livre avec des images.

Gérard mange une orange. Sylvie dit: «Gérard! Donne-moi une orange, s'il te plaît.» Gérard donne une orange à Sylvie. «Merci. Tu es gentil», dit Sylvie.

---

**Tu es gentil.** – Ты добры.

**8. Дапоўні адказы на пытанні.**

1. Qui est à la mer? – Gigi est ...
2. Qui nage? – Gigi ...
3. Qui mange une orange? – Gérard mange ...
4. Qui lit un livre avec des images? – Sylvie lit ...

**9. Разыграйце сцэнку. Задайце пытанні: «Qu'est-ce que c'est?», «Qui est-ce?» і адкажыце на іх. Выкарыстайце:**

**a.** un banc, une table, une porte, un cartable, un stylo, un carnet, une fenêtre ...

**b.** Nicolas, Pavel et Svéta, Anna, Nastia et Léna, Maxime et Serge...

Modèle 1: – Qu'est-ce que c'est?
– C'est un livre.

Modèle 2: – Qui est-ce?
– C'est Maxime, Denis et Vova.

**10. Чытаем разам. Вывучы рыфмоўку на памяць.**

une orange – un oranger – Solange – manger

Voici une belle orange
sur un bel oranger.
Et voilà Solange
qui va la manger.

## LEÇON 13 (treize). C'est la chatte d'Hélène.

**1.** **Паслухай і адкажы: Якая гэта жывёла? Як яе завуць? Чыя яна?**

**Sacha:** Regarde, Dacha! Qu'est-ce que c'est?
**Dacha:** C'est une chatte.
**Sacha:** À qui est la chatte?
**Dacha:** C'est ma chatte.
**Sacha:** Comment elle s'appelle?
**Dacha:** Elle s'appelle Mimi.



---

**À qui est la chatte?** – Чыя кошка?
**C'est ma chatte.** – Гэта мая кошка.

**2.** **Літары, спалучэнне літар і гукі. Паслухай і паўтары.**

**Hh è ô ch**





un hamster




un âne



une chèvre



une vache

**3.** **Паслухай і прачытай.**

Da-cha   Mi-chel   Na-ta-cha   Hé-lène   Allô!

| | | |
|---|---|---|
| Henri | un hôtel | une chatte |
| Hubert | un hobby | une vache |
| Hélène | un hamster | une chèvre |

Henri et Hubert // Macha et Natacha // Julie et Gigi

Hélène et Sylvie // Michel et Charles // Éric et Rémi

demander – elle demande, dire – elle dit
la chatte d'Hélène, le hamster de Michel

**Attention!** Літара **h** не чытаецца: un hôtel.
Літара **è** чытаецца як **«э»**: une chèvre.
Літара **ô** чытаецца як **«о»**: Allô!
Спалучэнне літар **ch** чытаецца як **«ш»**: le chocolat.

**4. Напішы літары, спалучэнне літар і сказ.**

*Hh è ô ch C'est la chatte Mimi.*

**5. Паслухай і прачытай словы з літарай h і спалучэннем літар ch. Якія словы табе знаёмы?**

**a.** une histoire, un hiver, un hobby, un hôpital, un hamster, un hôtel, un hippopotame, un héros
**b.** un cheval, un chacal, un parachute, un chat, le chocolat
**c.** une affiche, une vache, une chambre, une écharpe, une machine

**6. Разгледзь малюнкі, паслухай і прачытай. Адкажы: Як завуць дзяўчынку? кошку? Дзе яны?**





1. C’est une chambre.

2. Voici une chatte.
Elle s’appelle Minouche.



3. Hélène est sur le divan avec sa chatte.

**7. Прачытайце ў парах.**

– Qui est-ce?
– C’est Hélène.
–Qu’est ce que c’est?
– C’est une chatte.
– À qui est la chatte?

– C’est la chatte d’Hélène.
– Comment est la chatte d’Hélène?
– La chatte d’Hélène est petite et jolie.

Macha demande: «Hélène, comment s’appelle ta chatte?»

Hélène dit: «Ma chatte s’appelle Minouche.»

**8. Дапоўні адказы на пытанні.**

1. Qui est-ce? – C’est ...
2. Qu’est-ce que c’est? – C’est ...
3. Comment est la chatte d’Hélène? – La chatte d’Hélène ...
4. Comment s’appelle la chatte d’Hélène? – La chatte d’Hélène ...

**9. Разыграйце сцэнку. Спытайце адзін у аднаго, чыё гэта, і адкажыце на пытанне. Выкарыстайце:**

une (la) chèvre, une (la) pomme, une (la) place, une (la) poire, une (la) banane, un (le) hamster, ...

Modèle: – Qu’est-ce que c’est?
– C’est un stylo.
– À qui est le stylo?
– C’est le stylo de Dacha.

## LEÇON 14 (quatorze). Où est Minouche?

**1.** **Паслухай і адкажы: Як завуць дзяцей? Дзе Мінуш? Што яна робіць?**



**Louis:** Dis, Hélène, où est Minouche?

**Hélène:** Elle est dans la cour ou sous le lit.

**Louis:** Qu'est-ce qu'elle fait?

**Hélène:** Elle cherche des souris.

---

**Dis, Hélène, où est Minouche?** – Скажы, Алена, дзе Мінуш?

**Qu'est-ce qu'elle fait?** – Што яна робіць?

**2.** **Спалучэнні літар і гукі. Паслухай і паўтары.**

**Où ou Oui**



Hou-hou-hou

Cou-cou



un loup

un coucou



une souris



un journal

**3.** **Паслухай і прачытай.**

Lou-lou Ma-dou Louis Rou-dou-dou

| | | |
|---|---|---|
| Loulou | un loup | lu – loup |
| Madou | un coucou | nu – nous |
| Minouche | une souris | su – sous |

Loulou et Madou // Roudoudou et Minouche

chercher – elle cherche, jouer – ils jouent, être – elle est

elle est sous le lit, il est dans la cage, ils jouent à cache-cache

**Attention!** Спалучэнне літар **ou** чытаецца як **«у»**: un bouquet.

Канчатак **-ent** не чытаецца: ils jouent.

**4.** **Напішы спалучэнні літар і сказ.**

*Où ou Oui Où est Minouche?*

**5.** **Паслухай і прачытай словы са спалучэннем літар ou. Якія словы ты ведаеш? Якія літары не чытаюцца на канцы слова?**

**a.** une soupe, une mouche, une douche, une fourmi, un coucou
**b.** un journaliste, un bouquet, un tabouret, un boulevard

**6.** **Разгледзь малюнкі, паслухай і прачытай. Адкажы: Хто дзе знаходзіцца і што робіць?**

**Où est ...? – Дзе ...?**



1. Minouche cherche une souris sous le lit.



2. Le perroquet est dans la cage.



3. Le journal est sur la table.



4. Madou et Loulou jouent dans la cour. Ils jouent à cache-cache.

**7. Прачытайце ўдвух. Спытайце і адкажыце.**

1. Où est le journal? – Le journal est sur la table.
2. Où est la souris? – La souris est sous le lit.
3. Où est le perroquet? – Le perroquet est dans la cage.
4. Où est Madou? – Madou est dans la cour.

**8. Задай пытанні да сказаў. Où est … ?**

1. ... ? – Le livre est sur le banc.
2. ... ? – Minouche est dans la cour.
3. ... ? – La souris est sous le lit.
4. ... ? – Hélène est sur le divan avec sa chatte.

**9. Разыграйце сцэнку (практ. 1, с. 55). Выкарыстайце:**

le chat Minou; la souris Rirette; le hamster Boubou ...

**10. Чытаем разам. Хто дзе знаходзіцца?**

une souris – le lit – une fourmi – la pluie



Une souris sous le lit
Une fourmi sous la pluie

Une mouche sous la douche
Un zébu dans la rue
Quelle cohue, quelle cohue!

## LEÇON 15 (quinze). Simon, tu as un ballon?

**1. Паслухай і адкажы: Як завуць хлопчыкаў? Дзе яны? Што яны збіраюцца рабіць?**



**Michel:** Simon, tu as un ballon?
**Simon:** Oui, Michel.
**Michel:** Allons jouer dans la cour!
**Simon:** Quelle bonne idée! Oui! D'accord!

---

**Tu as un ballon?** – У цябе ёсць шарык?
**Quelle bonne idée!** – Добрая прапанова!
**D'accord!** – Згодны!

**2. Спалучэнні літар і гукі. Паслухай і паўтары.**

**on – om**

Ron , ron, ron

un chaton





une montre



un ourson



un hérisson

**Attention!** Спалучэнні літар **on, om** чытаюцца як насавы гук **«o»:** Simon, une compote.

Літары **n, m** не чытаюцца.

**3. Паслухай і прачытай.**

Si-mon Ma-non Bon-jour Bon-soir

mon bon – bonne On sonne!
ton rond – ronde Allons!
son son – sonne Jouons!

Simon et Manon // Allons et jouons!

demander – il demande, répondre – il répond,

dire – elle dit, aller – ils vont, ouvrir – elle ouvre, être – elles sont

**4. Напішы спалучэнні літар і сказ.**

*on om Simon, tu as un ballon?*

**5.** **Паслухай і прачытай словы з насавым гукам «o». Якія словы ты ведаеш?**

**a.** le son, le nom, le bonbon, le salon, le balcon, le ballon
**b.** un hérisson, un ourson, un chaton, un concombre
**c.** une compote, une comptine, une montre, une bombe

**6.** **Дапоўні словы ў адпаведнасці з малюнкамі і прачытай сказы.**



1. C'est un bon... .





2. C'est une c....

3. C'est un ou....



4. C'est un hé... .





5. C'est une mon....

6. C'est un bal....

**7. Прачытай сказы. Пастаў 4 пытанні.**

1. Voilà un bonbon. C'est mon bonbon. Mon bonbon est bon.

2. Voilà une montre. C'est ma montre. Ma montre est ronde.

3. – Simon, tu as un ballon? demande Michel.
– Oui, répond Simon.
– Allons jouer dans la cour, dit Michel.
– Quelle bonne idée! Oui! D'accord! répond Simon.
Simon et Michel vont dans la cour. Ils jouent au ballon.

4. Maman et Manon sont sur le balcon.
On sonne. Maman dit à Manon: «C'est papa. Ouvre la porte!»

---

**On sonne.** – Звóняць.
**Ouvre la porte!** – Адчыні дзверы!

**8. Дапоўні адказы на пытанні.**

1. Comment est le bonbon? – Le bonbon est ...
2. Comment est la montre? – La montre est ...
3. Où sont maman et Manon? – Elles sont ...
4. Que dit maman à Manon? – Maman dit ...

**9.** **Разыграйце сцэнку (практ. 1, с. 59). Выкарыстайце:**

une balle, un ourson, un chat ...

**10.** **Чытаем разам. Раскажы пра свайго любімца.**

chaton – bon – ron – ron – caresse – tendresse

Mon chaton est bon.
Il dit ron, ron.
Je le caresse
Avec tendresse.

## LEÇON 16 (seize). Dans la classe.

**1.** **Паслухай і адкажы: Як завуць хлопчыка і дзяўчынку? Якія школьныя прылады ты бачыш на малюнках?**



**La maîtresse:** Gaston Dupont!
**Gaston:** Oui, madame.
**La maîtresse:** Regarde! Qu'est-ce que c'est? C'est une gomme?
**Gaston:** Non, madame. C'est une règle.
**La maîtresse:** À toi, Magali. Qu'est-ce que c'est?

**Magali:** C’est un livre, madame.
**La maîtresse:** C’est juste. Bravo, Magali.

---

**À toi, Magali.** – Цяпер ты, Магалі.
**C’est un livre.** – Гэта (ёсць) кніга.
**C’est juste.** – Правільна.

**2.** Літары і гукі. Паслухай і паўтары.

**W w ga go gu gou gr**






un kiwi



une gomme



une guirlande

**3.** Паслухай і прачытай.

William Ma-ga-li Gas-ton Gus-tave ki-wi

| | | |
|---|---|---|
| Galine | Margot | un wagon |
| Magali | William | un kiwi |
| Gaston | Gabriel | un garçon |

Brigitte et Magali // Galine et Gilberte // Margot et Solange

Gaston et Serge // Jean et Jeanne // Simon et François

Regarde! C'est juste! Bravo! À toi, Serge!

**Attention!** Спалучэнне літар **gu** чытаецца як **«г»**: une guitare.

Літара **g** перад **a**, **o**, **u** і перад зычнымі чытаецца як **«г»**: Magali, une gomme, Gustave, un groupe.

**4.** **Напішы літары, спалучэнні літар і сказы.**

*Ww ga go gu gou C'est un kiwi.*
*Ce sont des gommes.*

**5.** **Прачытай словы з літарай g, якая чытаецца як «г» і як «ж».**

**a.** un guide, un dogue, une guitare, une guirlande, Marguerite
un garçon, un wagon, un ouragan, une gomme, une règle
une grimace, un tigre, un groupe

**b.** une image, une cage, une orange, une girafe, un gymnaste

**c.** des bagages, des garages, des images

**6.** **Паслухай і прачытай. Скажы, колькі прадметаў на малюнках.**



C'est une gomme.



C'est un kiwi.



Ce sont des gommes.



Ce sont des kiwis.

**7.** **Паслухай і прачытай адказ на пытанне.**

Qu'est-ce que c'est?

1. C'est un kiwi.
Ce sont des kiwis.

2. C'est un guide.
Ce sont des guides.

3. C'est une gomme.
Ce sont des gommes.

4. C'est une règle.
Ce sont des règles.

5. C'est un livre.
Ce sont des livres.

6. C'est un banc.
Ce sont des bancs.

7. C'est un stylo.
Ce sont des stylos.

8. C'est un cartable.
Ce sont des cartables.

**8.** **Прачытайце. Спытайце і адкажыце.**

**La maîtresse:** Gaston, où est la règle?
**Gaston:** La règle est sur le banc, madame.
**La maîtresse:** À toi, Brigitte. Qu'est-ce que c'est?
**Brigitte:** Ce sont des livres, madame.
**La maîtresse:** Où sont les livres, Magali?
**Magali:** Les livres sont dans le cartable, madame.
**La maîtresse:** C'est juste. Bravo, Magali.
Bravo, Gaston! Bravo, Brigitte!

**9.** **Чытаем разам. Апішы папугая.**

rouge – bouquet – bonjour – comme
perroquet – crie – Coco – cocorico

## Mon perroquet

Mon perroquet
Est rouge et gris
Il est joli
comme un bouquet.
Et si je crie:
«Bonjour, Coco!»
Il répond: «Oui,
Cocorico!»



# LEÇON 17 (dix-sept). Est-ce que c'est Rose?

**1. Паслухай, разгледзь малюнак і адкажы: Як завуць дзяўчынак? Хто такая Сюзана?**

**Lise:** Regarde, Maryse! Qui est-ce, là-bas!
Est-ce que c'est Rose?
**Maryse:** Non, Lise, c'est Suzanne, ma voisine.



---

**Est-ce que c'est Rose?** – Ці гэта Роза?
**ma voisine** – мая суседка

**2. Літары і гукі. Паслухай і паўтары.**

**Zz**

**Z Z Z z z z**





un vase



un zèbre



le nez

**3. Паслухай і прачытай.**

Za-za   I-sa-belle   Ba-sile   Su-zanne

| | | |
|---|---|---|
| Lise | Basile | un zoo |
| Rose | Gisèle | un vase |
| Maryse | Isabelle | un nez |

Lise et Rose // Suzanne et Isabelle // Zoé et Maryse

Basile et Rosalie // Simon et Gaston // Serge et Galine

(11) onze   (12) douze   (14) quatorze

Écoutez, mes élèves! Regardez! Lisez! Écrivez!

**Attention!** Літара **s** паміж галоснымі чытаецца як **«з»**: un vase.

Літара **z** на канцы слова не чытаецца: Lisez!

**4. Напішы літару і сказы.**

*Zz  Est-ce que c'est Zaza? —*
*Non, c'est Rose.*

**5. Паслухай і прачытай словы парамі. Якія словы ты ведаеш?**

le zéro – le zoo
le vase – le mimosa
la rose – la poésie

le gazelle – le gazon
le musée – la musique

**6. Работа ў парах. Спытайце і адкажыце.**

Modèle: Est-ce que c'est Basile?
**Oui**, c'est Basile. / **Non**, c'est Maryse.

1. Est-ce que c'est Zaza? / Lise
2. Est-ce que c'est Suzanne? / Rose
3. Est-ce que c'est un zèbre? / une gazelle.
4. Est-ce que c'est un livre / un carnet.

**7. Рашы прыклады.**



Modèle: 0 + 3 = 3
Zéro et trois font trois.

| | | |
|---|---|---|
| 1 + 2 =3 | 3 + 3 =6 | 3 + 5 =8 |
| 2 + 2 = 4 | 2 + 5 = 7 | 5 + 5 = 10 |

**8. Знайдзі гэтыя словы.**

U N L Z É R O
B Q U A T R E
S H O I T J D
E M I P R C I
P T S I X G X
T M I R B L I

| | |
|---|---|
| **zéro** | **un** |
| **quatre** | **six** |
| **sept** | **dix** |

# LEÇON 18 (dix-huit). C'est le portrait de mes parents.

1. **Паслухай і адкажы: Як завуць дзяўчынак? Якія цацкі ты бачыш на малюнках? Колькі гадоў Мірэт?**



une balle



une corde



un robot



un ourson



un tambour

**Gisèle:** Est-ce que c'est le tambour de Jean?
**Claire:** Non, c'est le tambour de Basile.
**Gisèle:** C'est pour qui, le robot et l'ourson?
**Claire:** C'est pour Mirette.
**Gisèle:** Quel âge a Mirette?
**Claire:** Elle a six ans.

---

**C'est pour qui?** – Гэта для каго?
**Quel âge a Mirette?** – Колькі гадоў Мірэт?
**Elle a six ans.** – Ёй шэсць гадоў.

**2.** 🎧 **Спалучэнні літар і гукі. Паслухай і паўтары.**

**ai – ei     ette**



un portrait



une maison




seize



des côtelettes




treize

**3.** 🎧 **Паслухай і прачытай.**

Ma-rie   Ni-co-lette   Mi-rette   Ger-maine Gi-sèle

| | | |
|---|---|---|
| Claire | Mirette | un capitaine |
| Germaine | Colette | une chaise |
| Gisèle | Nicolette | une maison |

Claire et Germaine // Mirette et Jannette // Marie et Colette

Anne et Annette // Nicolas et Nicolette // Isa et Suzi

aimer – j'aime, être – ils sont, ce sont, il est gai
mes amis, six ans, les roses dans le vase
Ce sont Rose et Claire. Elles sont amies.

**Attention!** Спалучэнні літар **ai, ei, ette** чытаюцца як «э»: le portrait, treize, Mirette.

**4. Напішы спалучэнні літар і сказы.**

*ai ei ette C'est une maison.*
*C'est Mirette.*

**5. Паслухай і прачытай словы з <u>ê</u>, <u>è</u>, <u>ai</u>, <u>ette</u>, якія чытаюцца як «э».**

| | | |
|---|---|---|
| gai | une tête | un père |
| mais | une fête | un frère |
| une saison | une omelette | treize |
| une maison | une côtelette | seize |

**6. Разгледзь малюнкі і прачытай. Назаві тое, што ты бачыш, поўным сказам. Выберы: C'est ... Ce sont... .**



un portrait



des chaises



une tête



des roses dans le vase

**7. Прачытайце ўтрох. Раскажыце пра сям'ю Клэр.**

Ce sont Gisèle et Claire. Elles sont dans la maison de Claire.

Gisèle voit un portrait. Elle demande: Qu'est-ce que c'est?

Claire dit:

– C'est le portrait de mes parents. Voici mon père et voilà ma mère.

– Est-ce que c'est ton frère?

– Oui, c'est mon petit frère.

– Comment s'appelle ton frère?

– Il s'appelle Basile. Basile est gai et gentil. J'aime mes parents et mon petit frère.

---

**mes parents** – мае бацькі
**mon frère** – мой брат
**J'aime** – Я люблю

**8. Адкажы на пытанні.**

1. Comment s'appelle le frère de Claire? – Le frère de Claire ...
2. Comment est le frère de Claire? – Il est ...
3. Est-ce que Claire aime les parents et le frère? – Oui, Claire ...

**9. Спяваем разам.**

### Frère Jacques

Frère Jacques,
Frère Jacques,
Dormez-vous?
Dormez-vous?
Sonnez les matines!
Sonnez les matines!
Ding! Ding! Don!
Ding! Ding! Don!

Chanson populaire

## NOTRE RÉCRÉATION

**1. Разыграйце сцэнку. Ты прыходзіш да акуліста, каб праверыць зрок. Ён паказвае табе літары, а ты іх называеш (гл. с. 76).**




## 2. Гуляем усім класам.

### La main chaude

**Tous:** Qui te frappe? Vite, ami, attrape.
Qui te taquine? Vite, ami, devine!
**Dima:** Oh, la main est chaude!
Elle n'est pas commode!
C'est Marie! C'est Marie!
(Ninette, Michel, Annie).
Tous: Non! Non! Non!
(Oui! Oui! Oui!).



---

**Qui te frappe?** – Хто да цябе дакрануўся?
**Qui te taquine?** – Хто цябе дражніць?

# UNITÉ II

## LE FRANÇAIS C'EST SUPER!

### LEÇON 1 (un). Bon anniversaire!

**1. Паслухай, разгледзь малюнак і адкажы: Чый гэта дзень нараджэння? Які падарунак атрымала мама?**



**Paul:** Maman, regarde!
**Maman:** Qu'est-ce que c'est?
**Magali:** C'est un cadeau.
**Maman:** C'est un gâteau?
**Paul:** Non. Devine.
**Maman:** Ah! Ce n'est pas un gâteau. C'est un chapeau. Il est très beau.
**Papa, Magali et Paul:** Bonne fête, maman. Bon anniversaire!
**Maman:** Merci beaucoup. C'est très gentil.

---

**Devine!** – Здагадайся!
**Bonne fête!** – Са святам!
**Bon anniversaire!** – З днём нараджэння!

**2.** Спалучэнні літар і гукі. Паслухай і паўтары.

**o – au – eau**



une moto



une auto




un tableau



des moineaux

**3.** Паслухай і прачытай.

| | | |
|---|---|---|
| Oh! | Paul | une moto |
| aussi | Claude | une auto |
| beau | Miraut | un cadeau |
| chaud | Maurice | un tableau |

Paul et Pauline // Claude et Claudine
Le chapeau est beau. Le gâteau est bon.
Le moineau est petit. L'auto est petite.
Un cadeau, c'est toujours bon!

